Нумар будзе складацца з 5—10 аркушоў.

Трэба думаць, што мэтодычныя артыкулы ў часопісе ўнясуць большую аднастайнасьць у вадносіны краязнаўчых організацый да сваёй справы. Апрача таго, Укр. Кам. Краязн. рыхтуе да выданьня 2 сэрыі брошурак: 1) бібліотэку краязнаўца і 2) навуковую бібліотэку. Першая будзе мець характар інструкцыйна-мэтодолёгічны, другая мае складацца з навуковых прац па розных галінах украінскай навукі.

## Краязнаўства ў Закаўкаскай СФСР.

Краязнаўчыя організацыі Закаўказьзя дагэтуль яшчэ маюць характар навуковых таварыстваў, слаба зьвязаных з масамі і мала зьвязаных паміж сабой. У кожным выпадку, організацыі трох галоўных частак Закаўказьзя — Армэніі, Азэрбэйджану і Грузіі—працуюць зусім незалежна адны ад другіх і нават не заўсёды абменьваюцца сваімі выданьнямі. З мэтай увязкі краязнаўчай працы ва ўсіх трох рэспубліках і для ўнясеньня плянавасьці ў працу тамтэйшых краязнаўчых організацый, у Тыфлісе пры Закаўкаскім ЦВК 3 гады назад была ўтворана *Закаўкаская Навуковая Асоцыяцыя.*

Аднак, спробы Асоцыяцыі аб'яднаць працу краязнаўчых організацый Закаўказьзя пакуль што вынікаў не далі і дзейнасьць Асоцыяцыі абмежавалася экспэдыцыйна - дасьледчай працай. У першую чаргу Асоцыяцыя занялася ўсебаковым абсьледваньнем Паўднёва - Осэтынскай самаўраднай краіны. Улетку 1924 году за дапамогай спэцыяльнай экспэдыцыі былі выяўлены выступаньні карысных выкапняў гэтай краіны, была выпраўлена геолёгічная карта, сабраны даныя для характарыстыкі быту і гісторыі осэтынаў. Адначасна была накіравана экспэдыцыя ў Нагорных Карабах з мэтай вывучэньня гаспадаркі і быту мясцовай люднасьці. У 1925 г. Закаўкаская Навуковая Асоцыяцыя праводзіла этнографічнае абсьледваньне Абхазіі і сабрала шмат матар'ялаў, датычных народнага быту, звычаяў і поглядаў абхазцаў.

У працягу летніх месяцаў 1926 г. Асоцыяцыя наладзіла тры экспэдыцыі: у Аджарыстан, у Даралагез і Нахічаванскі край. У часе экспэдыцый праводзіцца абсьледваньне гэтых краін у політыка-экономічным, гісторыка-этнографічным і прыродазнаўчым разрэзах.

З краязнаўчых організацый асобных рэспублік Закаўказьзя найбольш выявіла сябе Таварыства вывучэньня і абсьледваньня Азэрбэйджану, якое выдала шмат навуковых выданьняў на расійскай і цюркскай мове па пытаньнях гісторыі, мовы і часткова прыроды ды экономікі Ўсходняга Закаўказьзя.

У Грузіі краязнаўчую працу вядуць Музэй Грузіі, Грузінскае Таварыства гісторыі і этнографіі, Грузінскае Географічнае Таварыства, Абхаскае Навуковае Таварыства ў Сухуме і Т-ва вывучэньня Аджарыстану ў Батуме.

Пры музэі Грузіі ў сучасны момант адчынена толькі Зоолёгічнае аддзяленьне, у якім зьвяртаюць на сябе ўвагу памастацку выкананыя групы жывёл у натуральнай абстаноўцы. Між іншым, там знаходзіцца—забіты ў 1922 г. каля Тыфлісу закаўкаскі тыгра.

У Армэніі краязнаўчая праца толькі распачынаецца, прычым на чале краязнаўчых організацый Армэніі пастаўлена адзінае Армянскае Бюро Краязнаўства пры Народным Камісарыяце Асьветы ў Эрывані.

*Выдавец*—**Інстытут Беларускае Культуры.**

*Рэдактар*—**С. Плаўнік (З. Бядуля).**

# ЗЬМЕСТ.



## ПРОГРАМЫ, ІНСТРУКЦЫІ І АНКЕТЫ.



## МАТАР‘ЯЛЫ З МЕСЦ.



## ХРОНІКА